# НЁМАН.

Льецца Нёман памеж горау,
Светлы, чысты, як роса.
Накапау ён ям и норау,
Гониць воду праз леса.
Гой, ты, Нёман, наша рэка!
Поиш ты и кормиш нас,
Бедну чайку чалавека
Ты з сабой насиу не раз.
А вясною на прасторы
Дуб стары сярдзита гнау
И насиу ты крыгау горы,
Луг и поле затапляу;
Разливауся па ракитам,
Занимау и лес, и гай...
Доуговязы плыт за плытам
Носиш ты у далёки край.

Кольки раз рыбацки човен
На грудзях тваих гуляу!..
Гой, ты, Неман, быстры Нёман!
Кольки дум ты мне нагнау!
Чуу ты смутак горкой доли
Свайго сына—мужыка,
Чуу не раз у пустым поли
Плач и слёзы бедака...
В цихи вечэр над табою
Дудка плакала не раз,
И кацилася слезою
Песня у цёплы летни час...
А на берази, пад дубам,
В ночку цёмную рыбак
Спау не раз пад мокрым лубам,
Гнууся з холаду, бедак.

А у буру вецер кветку
Да грудзей тваих скланяу,
И касец в табе у летку
Пот крывавы абмывау.
Над табою месяц круглы
У ясным неби циха плыу,
И з табой высоки, смуглы
Лес цихутка гаварыу.
Перарэзау край ты родны
Беларуса-мужыка...
О наш чысты, наш свободны
Нёман, быстрая рэка!
Ты цячэш далёка—знаю:
У землю Литвы и немцоу...
Раскажы-ж чужому краю
Пра жыццё тваих сыноу!...

*Якуб Колас.*



## З усих старон.

### З Молодэчненской Вучыцельской Сэминарыи.

19 акцября (кострычника) да папечыцеля Виленскаго Округа зъявилася депутация ад вучашчыхся молодэчненской сэминарыи.

Вучашчыеся пярастали вучыцца и разъехалися па хатах. Дэпутацйя прасила каб папечыцель удалиу ихняго дырэхтара Годыцкаго-Цвирку, што зрабиу з сэминарыи арэштанския роты. Дэпутация разсказала, што Годыцкий ругаецца як пьяны звошчык на рынку, ды часам лезе бицца з кулаками и ня тольки да вучэникоу, а и да вучыцелей. Вось чаму пан Цвирко трымау у страху усю сэминарыю.

Але цярпенне лопнуло у вучэникоу и яны трэбуюць змяниць Годыцкаго, иначэй не пачнуць вучыцца.

Папечыцель Виленскаго Вучэбнаго Вокруга барон Вольф не знайшоу, што Годыцкий-Цвирка пауступаець не дэликатне з вучэниками и з вучыцелями, и атказауся змяниць яго—мала таго, барон радзиу, каб вучэники пагадзилися з панам дырэхтарам и пачали вучыцца.

Дэпутаты так ничога и не дабилися у виленскаго папечыцеля: паехали яны шукаць прауды у Пецербург. (Око)

### З Польшчы.

Недауно на станции Рогова было такое здарэнне: прышоу почтовы поезд. Усё было спакойне, раздауся первы званок; раптам штосьци зрабилося: неведамо скуль появилися неякие людзи, адзин стау пры званку, другие закамандовали публицэ, кяб з мейсца ня рухалась. Было цёмна. Кали раптам нешто блиснуло, а патом раздауся сильны выстрэл бомбы. Шклы пасыпались з вокноу. Пачалась пальба. Скора изноу разарвалась бомба. Уся станция затраслася, земля застогнала. Хтосьци затрубиу у ражок и пальба скончылась. На станции было светла — гаэру пачтовы вагон. Тых, што так недауно гаспадарыли ужо, не было видаць. Тут и там лежали куски вагоноу, з пад каторых чуваць было енки пакалечэных салдатоу (што пильнавали пачтовы вагон).

Пасля разыйшлася весць, што гэта зрабили неякие людзи—а было их 40—дзеля таго, каб аграбиць грошы, што были везены у пачтовым вагоне. Перш казали што им дасталося адзин милион двесьци тысячоу рублёу. Цяпер упрауленне почт и тэлеграфоу кажэ, што усяго забрано кале 60 тысяч рублёу.

„Око“, „Север.-Зап.-Голос“.

### З Пецербурга.

Недауно у Пецербургу вось што случылося. Еxау казначэй з порту з вяликими

але пастанавили друковаць яе на языку „тутэйшым“ беларуским. Гэта язык ня мёртвы, им гаворыць кале дзесяци мильёноў народу, народу цёмнаго, скрыўджэнаго — и ён скарэй нас зразумее, кали мы будзем писаць у нашой родной беларуской, як шмаг хто кажэ—„мыжыцкой“ мови. Зразумее ня тольки мужык, што сядзиць на рали, зразумее и фабрычны работник, што пакинуў родную вёску, каб у чужой старонцы шукаць заработкоў и хлеба;—зразумее и той пан, што жыве каля мужыка и так хочэ, каб газэтка выходзила па польску, и той чыноўник, што апекуецца мужыком и гаворэ з им па расейску.

З памиж усих Эўропэйских Гасударств Расея найменьш мае навуки, найбольш цёмная, а да найцемнейшых часцей яе належыць и Белая Русь. Мы, пастанавиўшы шырыць навуку, хочэм, каб разсеяла яна цёмносць, каб нас пачуло як найболей людзей,—и дзеля таго з чытацелями будзем гаварыць па беларуску. Нам здаецца, што наша работа не прападзе дарма.—Ведама, што нашы вяликие паны тольки то и рабили, што цягнули грошы за сваих маёнткоў ды пасля ехали за границу, каб там „адпачываць пасля вяликой працы“.

Помешчыки нашы увесь час были заняты то картами, то палеваннем—ўсим, што хочэш, тольки не навукой. А бедны мужык, запрацоваўшысь на рали, пазнаўшы часта и голод и холод, не мае часу учыцца, бо у свабодные ад працы минуты заливае сваё горэ—манапалькой.

Але цяпер ужо зразумели нашы „тутэйшые“, што навукой яны не грэшаць, и цягнуцца да яе. Знаем мы усё гэта и стараемся прыйсци на помоч чытацелям нашым.

Прызыў, кинуты ў № 1 „Нашай Нивы“, не прапаў дарма: были да гэтуль силы, але яны неяк спали. Цяпер яны адазвалися и абецуюць нам сваю помоч. Мы зразумели, што маем пад сабою цвёрды грунт. Рэдакция верыць, моцна верыць, што ешчэ больш сил аткликнецца, што памагуць нам ў рабоци, и мы тагды з ешчэ большай вераю скажэм словами нашаго песняра:

Сонцэ навуки скрозь хмары цёмные
Прагляне ясна над *нашай нивою.*
И будуць жыци дзетки патомные.
Добраю долей, долей шчасливаю.

## Могилки.

Круглае поле. Горы, каменне.
Лес па краёх, як сцена.
Циха усюды. Нудна на сэрцы...
Птушка ня крыкне нигдзе ни адна.

Могилки ў поли адны адзинютки.
Праслы гнилые на землю лягли.
Крыж пахилиўся, як кветка ў буру.
Многа их, многа ляжыць на зямли!

Кучка бярозак, верба ды хвоинка...
Вецер развеяў их, дошч спаласкаў...
От гдзе, ад гора мужык атпачыне;
От гдзе ён думки и слёзы схаваў.

*Якуб Колос.*

## Што чуваць за границою.

Ёсьць у Еўропи Гасударство—маленькае, небагатае—завецца яно *Чэрногорья.* Да гэтуль упраўляў Чэрногорьей князь и упраўляў так, як сам хацеў: власць яго была самодзержаўная, неограничэная. Убачыў гэты князь, што упраўленне яго да дабра не даводзиць, и не захацеў ён далей правиць адзин: вось и пастанавиў ён даць народу сваему можносць самому станавиць аб сваёй доли и устроиць такие парадки, написаць такие законы, якие даўно ўжо патрэбны были усему черногорскаму народу. Каб споўниць гэта, сазваў князь Гасударственную Думу (там яна называецца скупшчына, а па других краёх—парлямэнт) з выборных дэпутатоў народных и падзелиўся з ёю власцью сваей над усим гасударством.

Адно тольки перэшкадзало народу скарыстаць з дабытай власци: гэта тое, што министры ў Чэрногорьи назначались кня-

ственую камисию што, кали гэтаго ня будзе, у их знайдуцца такие дакументы, каторыми яны могуць даказаць, што и ешчэ болей высокие чыноўники маюць *грэхи*. Аб гэтай справе усёж таки идзе слецтво, а скольки ёсць таких спраў, каторые ня выйшли и николи ня выйдуць на свет Божы?...

Але гэта не ўсё. Нягледзячы на ваенные палажэння, на ваенно-палевые суды и разстрэлы (разстрэляно и павешэно да гэтуль — 443 чалавека), — успакаення нима.

Як видаць з усяго гэтаго, то выпутаць народ з вельми цяжкаго палажэння и недапусциць расхапаць у канец народные дабытки зможэ тольки такая Гасударственая Дума, у каторую выбяруць людзей, што будуць бараниць не интэрэсы Гурки, Лидваля и других таких дабрадзеёў народных, а будуць цьвёрда стаяць за народ и народные грошы.



# ДАРОГА.

Миж палей шыроких,
Як змея якая,
Цягнецца дарога,
Вуская, крывая....
  На абапол грушы
  Разраслися ў поли.
  Низеньки яловец
  Чахне, як ў няволи.
Тут мужык працуе,
Чорны ўвесь, як сажа.
Крыж на перакрэстку
Пра пакуту кажэ....
  Коцицца цялежка,
  Бъецца аб каменне.
  Гаратай на поле
  Глядзиць ў задуменни...
Ой, дарога — сцежка,
Вуская, крывая!
И ты, жыцце наша,
Ты, доля такая!

**Якуб Колас.**



# МАМОНТ.

Усё у нашым жыццю меняецца, усё пераходзе. Абецывали народу свабоду, цяпер аб гэтым штосьци ня чуваць; была Гасударственная Дума, яе ужо нима — скора будзе другая; казали, што мужыкоу надзеляць зямлёю, цяпер аб гэтым штосьци прыцихли... Зменяецца усё так само и у нашай прыродзе, ва усём, значыць, тым, што нас акружае — на цэлым свеци. Была недауна вясна, траука зялянела, распусьцились дзярэуя, зацвяли па сенажацях кветки... Настала лета, яна змянилась восенью: пажауцела траука, апау лисць з дзярэуёу, кветкау нима ани звання.

Як дзень памаленьку зменяецца ночью, так и у жыццю нашым, у прыродзе усё зменяецця адно другим, зменяецца павоЛи, цамаленьку и гэта павольнае зменянне у навуцы называецца э в о л ю ц и е й.

Зямля наша, на каторай мы жывем, па каторай ходзим, калисьци ня была падобна да цяперашней. Там гдзе калисьци были далины, цяпер стаяць горы, — там гдзе были рэки, цяпер их нима—там гдзе было морэ, цяпер суха — земля.

Калисьци уся Расея ат самаго северу — палуночы да палудня, вот прымерам ат Архангельска да Астрахани — уся Расея была пакрыта толстым лёдам; лёд гэтый лежау на зямли круглые годы и цёк ён памаленьку як рэка, плыу павоЛи, але з вяликай силай. Сунууся ён сам па сябе бяз уселякай вады, забираючы па дарозе каменне, пясок. И перанасиу ён их у далёкие мейсцы, гдзе ён их то пакидау, то зноу далей нёс з сабой. Каменне, што няслись з лёдам, шлифовались па дарозе аб сустрэчные прадметы. Гэтый увесь цэликом лёд называуся и нязываецца у навуцы л е д н и к о м, а той час, кали гэтые ледники на свеци найболыш были, называецца л е д н и к о в ы м п е р и о д о м. Што гэта ня видумка тые ледники и той ледниковый период — аб гэтым свядчаць тые атшлифованые каменне, што знаходзяць часам,—тые

**Твэр.** Нехта застрэлиў з рэвольвэра графа Игнатьева.

**Лодзь.** 6 дзекабра раницэю кинули тут бомбу ў карэту палицмэйстра Хжаноўскаго. Карэта разляцелася на маленькие кавалачки. Кинуўшы бомбу, неякие людзи пачали стрэляць з рэвольвэроў залпами. Палицмэйстэр ранены ў ногу. Ранены ешчэ фурман, кольки драгуноў и члены „ахраны“ [з тайнай палиции].

## Заграничнае эхо.

**Пэрсия.** З Лёндына, як кажэ „Сев.-Зап.-Гол.,“ пишуць, што ў Пэрсии робицца нешта недобрае. Ешчэ недаўна шах [цар] пэрсицки даў свабоду сваему народу и сазваў Парлямэнт [Думу]. Цяпер шах надта захварэу, а яго наследник, як кажуць, аткрыты вораг народнай свабоды и хочэ вернуць тые парадки, што были да гэтуль. Алеж пэрсицки Парлямэнт ешчэ байчэйшы за нашу першую Думу, и кали яго разгоняць, то увесь народ падымецца з аружжэм ў руках, каб дабыць праўдзивую свабоду.

**Китай.** З Токио идуць весци, што ў Китаю народ бунтуецца ад голаду. З бунту народ перэйшоў да паўстання.

У окрузи Пин-Син народ навэт разбиў императорскае войска.

**Японь.** Англицкие газэты пишуць, што правицельства Расеи и Япони не магли згаварыцца аб тым, каб японцы саўсим заняли Сахалин. Цяпер у Манджурьи японцы будуюць дароги дзеля вайны и складаюць вяликие запасы провианту [харчоў]. А за ими и китайцы без перэстанку робяць тое самое. Ўжо палучэны прыказ, каб перэнесци Руско-Китайски Банк з Мукдэна ў Харбин. З Корэи, што належыць да японцоў, ужо зроблена дорога ў Мукдэн и мост чэраз рэку Ялу.

Японцы зрабили, значыцца, ўсё так, што могуць перэкинуць сваё войска у Мукдэн ў пяць дзён, а расейскаму войску трэба туды ехаць больш, як месяц.

Навэт Грингмут, што стаиць близка кале правицельства, сказаў свайму таварышу, што вайна з Японью пэўне будзе. Што на Далёким Ўсходзи [Востоку] чэкаюць вайны— можна бачыць з таго, што у Пецербургу адтуль заказываюць ўселякие патрэбные дзеля вайны рэчы. Газэта „Новый Край“ пишэ, што японцы хочуць заваевать увесь берэг мора. Японски ваенны министэр просиць у свайго народу грошэй, каб скончыць набор ешчэ 20 дывизьёў войска ў 1907 гаду, бо, як ён кажэ, пабиўшы ворага трэба быць ешчэ мацнейшым, каб пабиты ня мог адамсциць. Азияцки берэг мора и Китай маюць карысць жыць з Японью, бо японцы, ведама, вучоная сила и дастаўляюць таней ўселякие тавары. Апроч гэтаго китайцы больш цягнуць за японцоў дзеля таго, што апошняя вайна, Леневич, паходы Рэннэнкампфа — ўсё гэта зрабила шмат шкоды китайскаму народу.

Добра гэта для японцоў, и яны канешне пастараюцца заваевать увесь той берэг мора. „Сев.-Зап.-Гол.“



## Моладасць.

Чым мне ўспомниць цябе, моладасць,
Майго жыцця перша раница?
Пралетае весна хмурная,
Мая весна ўсё туманицца.
Дзе вы, думки маи чыстые,
Майго сэрца дзетки милые?
Як жылося лёгка з думками
У дни шэрые, пастылые!
И мяне не раз вы цешыли
Ў ночку цёмную, безсонную,
Хоць на момэнт заслоняли вы
Ад вачэй нуду бездонную.

Дзе ты, кветка, зорка Божая?
Меж народу ты свяцилася;
У глухом кутку, меж хвоями,
Ты па жыццю ўсё нудзилася.
Чы цвяцеш ты, чы засохла ты
У краю тым, адзинокая?
Чы ёсць искра света Божаго,
Мая ластоўка далёкая?
Чым мне ўспомниць цябе, моладасць,
Мая раница ты хмурная?
Незаметна ты ўсё тлелася,
Як лучына тая курная.

**Якуб Колас.**

